# Ніва

ISSN 0546-1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 42 (1692) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 16 КАСТРЫЧНІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.


## ЖЫВЫ СЯРОД ЖЫВЫХ

**В**ыдатны беларускі паэт **Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун, 1887-1920)** на працягу больш чым пяцідзесяці гадоў быў непрысутны ў беларускай савецкай перыёдыцы, падручніках гісторыі беларускай літаратуры. Аднак так было не заўсёды. Пасля ўзнікнення БССР, асабліва ў перыяд беларусізацыі прозвішча і творчасць Алеся Гаруна функцыянавалі ў беларускім культурным жыцці. Пад канец дваццатых гадоў быў падрыхтаваны да друку збор твораў паэта, у які ўвайшлі ўсе тады вядомыя творы Алеся Гаруна. Як вядома, у 1929 годзе распачаўся ў БССР перыяд сталінскага разгулу. Расправы чыніліся як над жывымі, так і над мёртвымі прадстаўнікамі беларускай культуры, навукі і літаратуры. Ганенні датычылі таксама і твораў Гаруна, якога ўжо дзесяць гадоў не было сярод жывых. Вершы, апавяданні і п'есы пісьменніка на працягу болей пяцідзесяці пяці гадоў не друкаваліся, а імя паэта не ўпаміналася ў падручніках па гісторыі беларускай літаратуры. Варта падкрэсліць, што як у даваеннай, так і ў Народнай Польшчы не выступалі ганенні на Гаруна. У міжваеннай Польшчы беларускі друк нераз пісаў аб Алесю Гаруну. Яго творы ёсць і ў „Хрэстаматыі" І. Дварчаніна. Пасля ўзнікнення БГКТ у „Ніве" паяўляліся час ад часу артыкулы аб гэтым паэце, а ў пачатку сямідзесятых гадоў я меў прыемнасць прысвяціць А. Гаруну многа адрэзкаў у сваім цыкле „Беларуская літаратура". Параўнаўча нядаўна пісаў аб ім у „Ніве" Янка Максімюк.



Варта адзначыць, што беларускія эмігранты ў 1962 годзе ў Мюнхене выдалі абшырны збор твораў пісьменніка „Матчын дар". На пачатку 80-х гадоў у БССР выступілі патрабаванні рэабілітацыі Гаруна. Вялікую актыўнасць у гэтай галіне праявіў наш зямляк, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР Уладзімір Казбярук. На працягу некалькіх гадоў прадстаўнікі бюракратычнай машыны паспяхова паралізавалі ўсе спробы рэабілітацыі Алеся Гаруна. Нарэшце, абсурднасць і антынароднасць такога падыходу да справы настолькі стала відавочнай, што апаратчыкі ўступілі, а ў 1988 годзе выйшла ў Мінску факсімільнае выданне „Матчынага дару" Гаруна і прыняты ў друк найабшырнейшы з усіх дагэтуляшніх збораў твораў гэтага пісьменніка. Зразумела, што ў новых падручніках па гісторыі беларускай літаратуры будуць апрацоўкі, прысвечаныя жыццю і творчасці Алеся Гаруна.

У Польшчы ў васьмідзесятыя гады Алег Латышонак і яго бацька Юры Латышонак распачалі пошукі магілы Алеся Гаруна, які памёр у Кракаве ў 1920 годзе. Нарэшце ўдалося Алегу Латышонку знайсці магілу на Ракавіцкім могільніку. Бацька і сын звярнуліся да Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства з просьбай афарміць з адміністрацыйнымі ўладамі Кракава праўнае забеспячэнне магілы Гаруна і дазвол на пабудову на ёй помніка. Такое пісьмо было намі накіравана кракаўскім уладам і адыграла станоўчую ролю ў справе аховы магілы паэта. Пасля гэтага Латышонкі праявілі выключную энергію ў зборы сродкаў на пабудову помніка і сабралі іх ад беларусаў, раскіданых па свеце. Сабраўшы іх, заказалі помнік не ў Кракаве, а на Беласточчыне, бо хацелі, каб камень, з якога будзе збудаваны помнік, паходзіў з беларускай зямлі.

Адкрыццё помніка вызначана на 24 кастрычніка 1988 года. Адкрыццём зацікавіліся прадстаўнікі розных беларускіх слаёў у Польшчы. На жаль, знайшліся і такія, якія аб'ектыўна сышліся са сталіністамі і пачалі дзейнічаць у тым напрамку, каб БГКТ і ўвогуле беларусы не ангажаваліся ў справу адкрыцця помніка, „бо гэта зацея каталікаў у гонар рэакцыянера-католіка Гаруна". Аднак, нягледзячы на такія дзеянні, вялікая група беларусаў з Беласточчыны намервалася паехаць у Кракаў. Узнікла праблема даезду да Кракава. І тут многа добрай волі праявіў наш выдатны дзеяч з Орлі Анатоль Мартыновіч, які даў для гэтай мэты школьны (вялікі, су-

(Працяг на стар. 6)




Напярэдадні Дня настаўніка мы звярнуліся з некалькімі важнымі для беларускай справы пытаннямі да педагогаў школы № 3 у Бельску — найбольшай у Польшчы пачатковай школы, у якой усе дзеці вывучаюць родную беларускую мову. Сёння ў гэтай школе вучыцца 955 дзяцей, што складае каля 1/4 усіх вучняў у Польшчы, якія вывучаюць беларускую мову. У размове ўдзельнічалі дырэктар школы Васіль Ляшчынскі, намеснік дырэктара Вера Міхноўская, методык беларускай мовы Тамара Русачык, настаўнікі-беларусісты Марыя Базылюк і Міраслава Маркевіч, а таксама настаўніцы пачатковага навучання, якія ў сваіх класах самі вядуць урокі беларускай мовы, — Ніна Сычэўская, Стэфанія Красуцкая і Ларыса Бурыла.

**„Ніва":** — Школа № 3 у Бельску — гэта адзіная школа ў горадзе, дзе дзеці вывучаюць беларускую мову. Прычым, усе ў горадзе ведаюць, што ўжо само паступленне ў „тройку" азначае вывучэнне беларускай мовы. Ад гэтага правіла няма ніякіх выключэнняў: паступаеш у гэтую школу — значыць, выказваеш ахвоту вывучаць беларускую мову. І тым не менш, у вашу школу нялёгка запісаць дзіця ў першы клас. Чым вы гэта можаце тлумачыць?

**Дырэктар школы Васіль Ляшчынскі:** — Сапраўды, ахвотных вучыцца ў нашай школе ёсць вельмі многа. Школа наша не падлягае раяніраванню. Мы прымаем дзяцей з усяго горада і ваколіцы, гэта значыць, і з бліжэйшых вёсак, калі бацькі гэтага хочуць. На 955 вучняў у школе каля сарака дзяцей даязджае з вёсак — з Парцава, Праневіч, Левак, Пілікаў, Рыгораўцаў і іншых.

**„Ніва":** — Што адрознівае вашу школу ад іншых у Бельску?

**Дырэктар:** Апрача абавязку навучання беларускай мовы ды адмовы ад раяніравання — нічога.

**„Ніва":** — У горадзе гавораць аб высокім узроўні навучання ў „тройцы", аб тым, што абсалютная большасць выпускнікоў ідзе далей вучыцца ў ліцэй, а затым і ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

**Дырэктар:** — Гаварыць аб узроўні школы — не мая справа.

(Працяг на стар. 3)



# Васіль Петручук — „Ад пастушка да „Пожні"

## ГАВОРАЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

— Вы былі адзіным карэспандэнтам з горада Беластока. Як пачалося?

— Калі я ў 1965 г. вярнуўся з Варшавы ў Беласток, пачаў чытаць „Ніву". А пасля пачаў і пісаць недарэчлівыя кароценькія інфармацыі.

— Яны не былі, Васіль, недарэчлівыя. Вы пісалі ў іх аб надзённых справах горада, часта крытыкуючы розныя непаладкі. Такія інфармацыі з горада „Ніве" былі і ёсць патрэбны.

— ...І пачаў часта заходзіць у рэдакцыю „Нівы". Я знайшоў тут сваю зямлю, свой родны куточак, дзе мог вучыцца беларускай літаратурнай мове, якой я дагэтуль не ведаў. У Варшаве і яшчэ раней я гаварыў на сваёй грабавецкай гаворцы. Калі больш зжыўся з рэдакцыяй, напісаў свой першы літаратурны твор на гаворцы п.з. „Закалядаваў". Ён быў надрукаваны 5 студзеня 1975 г. Ад гэтага і пачалася мая літаратурная творчасць.

— Але я хацела б вярнуцца яшчэ да вашай карэспандэнцкай дзейнасці. Пагаворым аб формах вашых карэспандэнцый. Там жа былі крытычныя, палемічныя, сатырычныя карэспандэнцыі, фельетоны.

— Ніхто цяпер не памятае, што я прыдумаў рубрыку „Якія мы людзі", у рамках якой зрадзілася як бы новая рубрыка „Цалаваць ці не цалаваць" (рукі жанчын). Я сам і многія іншыя пісалі тады пра тое, якія мы людзі ёсць і якія павінны быць. То ж помніце, Вера, на гэтую тэму дыскусія бурліла некалькі гадоў.

— У вас добрая беларуская мова. Як навучыліся?

— Тут, у рэдакцыі. Я ж за гэтую навуку заўсёды вас асабіста хвалю і хвалю. Некалі Віктар Рудчык у радыёперадачы запытаў мяне, адкуль ведаю беларускую мову. Я праўду сказаў, што ад Веры Валкавыцкай і Марысі Федарук, якія мяне заўсёды папраўлялі і тлумачылі. Я ж ад вас нават кніжку атрымаў „Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" з дэдыкацыяй, якую помню: „Васі Петручуку за тое, што так цудоўна вывучыў беларускую мову".

Калі вы да ўспамінаў, то і я раскажу адзін прыклад, як мы вучылі вас беларускаму правапісу і беларускаму вымаўленню. Неяк папраўляючы ваша вымаўленне, я сказала, што ў беларускай мове літара „о" выступае толькі пад націскам. Вы глянулі на мяне і я зразумела, што вы адразу ўлавілі істоту гэтага граматычнага правіла. Але яшчэ пытанне да вас як карэспандэнта. Спецыфічнай для вас была рубрыка „З маёй званіцы". Чаму вы яе закрылі? Тэмаў не хапіла?

— Тэмы ёсць. Ды ў нейкім моманце я адчуў сябе як бы непатрэбным. Маё выступленне на старонках „Нівы" ў дыскусіі аб моладзі вельмі востра скрытыкавала Ангеліка Савіцкая. Я хацеў адказаць ёй на старонках „Нівы" ды мне ў рэдакцыі выяснілі, што не адзін я маю рацыю. І я неяк прыціх. Ну і самі вы бачылі адносіны да карэспандэнтаў з боку БГКТ і рэдакцыі. Было ж святкаванне 30-годдзя БГКТ і „Нівы" і ніхто словам не ўпамянуў пра карэспандэнтаў „Нівы". Як крыўду гэта адчуў не адзін я. І Грыша Мароз пісаў аб гэтым. Па-мойму, калі ёсць карэспандэнты, значыць яны патрэбныя. Аб іх ролі і заданнях на нашых з'ездах многа гаварылася, мы стараліся, як маглі.

— Вы лічыце, што патрэбны з'езды карэспандэнтаў і кантакты паміж імі і рэдакцыяй?

— Так! Успомніце гады, калі „Ніва" мела шмат выдатных карэспандэнтаў: Вайсковіч, Шчасновіч, Сідарук, Семянюк, Мароз, Дзед Кастусь, Байко, Жэня Мартынюк, Гаўрылюк, Закройшчык, Маўчун, Кірылаў і многія іншыя. Людзі нават здалёк ахвотна прыязджалі на з'езды, дзяліліся сваімі думкамі, раіліся, як пісаць, вучыліся. А потым, як кураняткі тыя, разбегліся, перасталі пісаць.

— Дадам яшчэ, што мы вялі конкурс на найлепшага карэспандэнта года. За год мы на старонках „Нівы" публікавалі па 700—800 карэспандэнцый. У нас бывала да 100 пішучых карэспандэнтаў.

— Найлепшыя карэспандэнты атрымлівалі ўзнагароды і гэта падтрымлівала іх актыўнасць.

— Як не гавары, а прыдалося б, Васіль, адрадзіць рубрыку „З маёй званіцы". Малавата ў „Ніве" лёгкіх матэрыялаў, над якімі можна пасмяяцца, адпачыць.

— А я вось і напісаў матэрыял для „З маёй званіцы", аб адрамантаваным нядаўна беластоцкім рэстаране „Асторыя".

— Рэдакцыя лічыць, што трэба пашырыць публікацыю матэрыялаў аб горадзе Беластоку, дзе жыве вельмі многа беларусаў, для якіх усе тэмы горада — іх тэмы. А цяпер аб вашай кніжцы. Вы сталі надта слаўным аўтарам „Пожні". Выйшлі вы з „Нівы", як, зрэшты, і ўсе іншыя нашы паэты і пісьменнікі. Давайце прывядзем пару выказванняў аб вашай кніжцы. Вось прафесар Т. Позняк з Вроцлава піша: „Рэч цікавая, патрасаючая, беспрэтэнцыёзная па форме. Жывая мова!" Аляксандр Баркоўскі з Мінска, БССР: „Прачытаў кніжку Васіля Петручука „Пожня". Чытаў, як кажуць, на адным дыханні... Чытаў яе ўголас і хлопцам на рабоце ў час абедзеннага перапынку. Яна ўсім спадабалася. Увогуле шмат хто тады даведаўся, што ў Польшчы жывуць беларусы, выходзяць кнігі і „Ніва".

Якая была ваша дарога да кніжкі ад першай літаратурнай спробы на старонках „Нівы"?

— Пасля замалёўкі „Закалядаваў" я неяк знoў прынёс у рэдакцыю „Успаміны пастушка". Паказаў Яновічу, які мне трапіў на вочы. Ён сказаў: „А ты напішы кніжку!". І я пачаў яе пісаць.

— Як ішло пісанне?

— Я пісаў вельмі сістэматычна і ўпарта і напісаў гэту кніжку на працягу года. А потым яна некалькі год ляжала ў ГП, пакуль Валкавыцкі неяк не спытаў мяне, што з маёй кніжкай. Я за яго парадай пайшоў у ГП, каб забраць яе, але тады ўжо выслалі яе ў МУС. Там зноў яна канула на доўгі час. Адным словам, доўга яна вандравала ў пошуках белага свету.

— Колькі год ад напісання?

— Сем год.

— І пытанне, якое вам задаюць у лістах: ці будзе працяг?

— Над працягам мучуся, пішу, пакутую.

— Які загаловак і змест?

— Рабочы загаловак „Паганец", а тэма — далейшае маё жыццё. Паралельна пішу і кнігу „Ой, чыя то хата".

— Аб чым гэтая?

— Аб вясковым жыцці ў даваенны час на беларускай вёсцы.

— Ці вернецеся да карэспандэнцкай дзейнасці?

— Калі будзе служыць здароўе і рэдакцыя захоча публікаваць мае матэрыялы, дык у мяне няма перашкод. Карэспандэнты „Ніве" неабходныя. Яны ахопліваюць шырокае асяроддзе і шырокі круг тэмаў. Там, у тэрэне, ёсць аб чым пісаць — штодзень новая тэма: то скуп, то вугалю не давезлі, то камінар бярэ грошы за нішто, то ў гміне бюракратычная вазня і т.д. і т. п. Уся гэтая, жыццёва важная, праблематыка павінна з усёй сваёй бурлівасцю вярнуцца на старонкі „Нівы".

Інтэрв'ю ўзяла
**Вера Валкавыцкая**




# НАШЫ ЛЮДЗІ

Здаецца, словы простыя: нашы людзі. Калі ж задумаешся, дык словы маюць глыбейшы сэнс: наш чалавек — свой чалавек — добры чалавек.

Год таму назад я пабываў у многіх школах Беласточчыны, дзе дзеці і моладзь вывучаюць беларускую мову.

Я не ведаю, як іншыя аўтары ўспрымаюць сустрэчу з дзецьмі і настаўнікамі гэтага прадмета, але я — заўсёды з хваляваннем. Хваляванне мае ўзнікае з таго, што куды б чалавек не заехаў, усюды ён — сваяк. Ці ж не прытакне маёй думцы інспектар ГП БГКТ пані Анна Бжазоўская?

Як тут не хвалявацца, калі пасля сустрэчы з вучнямі чацвертых класаў Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім настаўніцы Зінаіда Дэм'янюк і Вера Рышчук хуценька зноў паклікалі мяне на сустрэчу з трэцякласнікамі таго самага ліцэя, ды апрача сардэчнасці, сяброўскай апекі і кветак яшчэ ўзнагародзілі мяне (як бы ведалі, што я за ім прападаю) пласцінкай з баладамі і песнямі Булата Акуджавы.

Як не хвалявацца, калі сустракаеш на сваёй дарозе такіх людзей, як Тамара Русачык, Аня Шыманская з Орлі, настаўнікаў з Дубяжына, Пашкоўшчыны, Рыбалаў ці Пасынак?

Гэта людзі, якія не баяцца і не шкадуюць, што нарадзіліся беларусамі. Як жа прыемна было слухаць, калі, чакаючы ў Бельску цягніка, чатыры хлопцы ў ваеннай форме — іх выхаванкі — без ніякіх комплексаў гутарылі на роднай мове.

Ці ж гэтую масу нашых людзей можна зраўняць з той кольчасцю, якая нас кампраметуе? Што гэта за людзі, якія гатовы выкарчаваць усе свае карэнні, а дзяцей гадаваць на чужой глебе, якая ўжо ніколі не дасць такога соку, які дае родная зямля, родны сад, родная рэчачка, родныя песні, родныя казкі, родныя звычаі і родны народ! Я асабіста лічу, што усе людзі, якія не цікавяцца сваёй гісторыяй і будучыняй, з'яўляюцца людзьмі ўсяго толькі з назвы; яны пустыя душою, слабыя воляй. Гэта чалавечыя цені.

І таму менавіта на вока просты сказ — нашы людзі — не такі ўжо і просты.

**Васіль Петручук**



## НОВАЯ БУДОЎЛЯ Ў СТАРЫМ ЛЯЎКОВЕ

Побач з Керамічнай фабрыкай у Старым Ляўкове (Нараўчанская гміна) пачалася новая будоўля. Будзе гэта вялікі будынак, дзе памесцяцца прасторная святліца, раміза добраахвотнай пажарнай каманды і крама. а таксама гасцінныя пакойчыкі на першым паверсе. Мясцовыя жыхары хацелі б, каб спомненыя аб'екты як мага хутчэй пабудавалі і аддалі ў карыстанне. Можа тады і моладзь не ўцякала б з вёскі?

Тэкст і фота
**Янкі Целушэцкага**

## ЖЫЦІЙНАЕ АПАВЯДАННЕ

...Нарадзілася я ў сялянскай сям'і. Мае тата і мама цяжка працавалі на вёсцы. Цяжка ім прыходзілася ў жыцці. Мелі двое дзяцей і абедзве дзяўчынкі. Нас трэба было выгадаваць. Калісьці не было гэтак, як цяпер. Сяляне працавалі рукамі ад цямна да цямна. Яны не ведалі, што ёсць веласіпед, а што гаварыць пра радыё!

Мы — дзяўчынкі Аня і Валя — працавалі з бацькамі, вучыліся ў пачатковай школе ў Плёсках. Аня — мая сястра вучылася ад мяне крыху лягчэй. Пайшла ў беларускі ліцэй. Вучылася ў Бельску. Пасля пайшла вучыцца ў вялікі горад Варшаву, у вышэйшую школу на 5 гадоў. Скончыўшы тую школу, сястра мая выйшла там замуж. Бацькам цяжка было, пакуль вучылі сваё дзіця на людзей. Якія кошты!

Я ад малога дзіцяці была пакрыўджана. У першым класе вучылася яшчэ сяк-так. Але была дзяўчынкай неслухмянай. Перастала слухацца бацькоў, перастала займацца вучобай, а мела талент. Скончыла толькі пяць класаў пачатковай школы. Бацькі мусілі на мяне цяжка працаваць — — на мяне, неслухмяную сваю дачку. Тата мусіў ездзіць далёка на работу, а мама з дзецьмі сама ўсё рабіла на гаспадарцы. Цяжка, вельмі цяжка гэта мне ўспамінаць. Розныя думкі находзяць. Прыходзіць і такі час, што і плакаць хочацца.

Бацькі мае пераржывалі маю хваробу і неслухмянасць. Я ад малога хацела штосьці зрабіць у жыцці. але мне не ўдавалася, таму што я мела нядобры характар. У маёй галаве кружыліся розныя думкі. У васемнаццаць год я надумалася пайсці на работу. Працавала ў Гайнаўцы, нядоўга — няпоўных два гады. Аднаго разу, як вярталася сама з работы, мела самахадовы выпадак. Пасля гэтага выпадку я страціла пасаду, бо надта доўга хварэла.

У маім жыцці было ўсяго, таму што я любіла паспяваць, пагуляць, займацца дрэннымі гульбішчамі. Усё стаіць вобразам. Працавала я і на полі, на лузе, і ў лесе. Лес быў маім жыццём, маім натхненнем.

Збіраліся сяброўкі, сябры і старэйшыя жанчыны. Было нам тады весела і добра. Дачакалася я лепшага часу. Засвяціла сонца. А дзеці цяперашняга веку якога добрага жыцця дачакалі! У кожнай хаце паявілася радыё, тэлевізар, магнітафон, матор, самаход. Проста любата! Старэйшым лягчэйшы час настаў. Маладыя пайшлі сучаснымі дарогамі.

А я ранцісткай ужо трынаццаць гадоў. Сяброўкі і сябры ад мяне адракліся. Усе называюць мяне дурной. Самі падаставалі ўжо блёкі. Жывуць, хто дзе. Рассыпаліся па цэлым свеце.

Нашыя бацькі, якія перажывалі цяжкія гады. плачуць, гледзячы на цяперашні час. Людзі ж сталі багацець і нікога знаць не хочуць.

Гэта і ёсць маё жыційнае апавяданне. Прашу прачытаць.

**Валянціна Дзенісюк**

# ЖЫВЫ СЯРОД ЖЫВЫХ

**(Працяг са стар. 1)**

часны і зручны) аўтобус. Паехалі не толькі беларусы з Беласточчыны. Паехала таксама восем прадстаўнікоў беларускай літаратуры з Гродна на чале з дацэнтам Аляксеем Пяткевічам і Данутай Бічэль-Загнетавай. Апрача гэтага, з Мінска прыехалі высокія госці: навуковы супрацоўнік Акадэміі навук БССР Уладзімір Казбярук і сакратар Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Васіль Зуёнак.

На месцы ў Кракаве высветлілася, што ў натоўпе, сабраным над Магілай Гаруна, знаходзіцца вядомая перакладчыца беларускай паэзіі на англійскую мову Вера Рыдж і беларус з Аўстраліі Міхась Лужынскі.

Урачыстасці распачаліся некалькі мінут пасля адзінаццатай і прадаўжаліся каля дзвюх гадзін.

З уступнай прамовай выступіў я. Пасля мяне вучні бельскага і гайнаўскага беларускіх ліцэяў пад кіраўніцтвам заслужанага ў беларускім мастацкім руху Янкі Морданя далі багатую праграму, у якой былі вершы Гаруна і беларускія патрыятычныя песні.

Без усякага дырыжорства, стыхійна, па наказу сэрца выступалі над магілай не толькі беларусы і палякі, але і англічанка Вера Рыдж. Сярод прамоўцаў былі: Алег Латышонак, Уладзімір Казбярук, Віктар Швед, Вера Рыдж, Аляксей Пяткевіч, Данута Бічэль-Загнетава, Васіль Зуёнак, Кастусь Сідаровіч, Яўген Вапа, Міхась Лужынскі, Збігнеў Гаеўскі, Анджэй Іздэбскі.

Усе прамоўцы з вялікай узрушанасцю, сардэчнасцю і эмацыянальнасцю гаварылі аб Алесю Гаруну як аб вядомым сыне беларускага народа, выдатным паэце, празаіку і драматургу. Усе выяўлялі глыбокае задавальненне з тае прычыны, што гэты выдатны пісьменнік вяртаецца ў гісторыю беларускай літаратуры не як мёртвы баласт, а як жыватворны чыннік, які ўзбагаціць нашу пісьмовасць і культуру. Праз многія прамовы прабівалася думка аб тым, што Алесь Гарун гэта не толькі мінулае, але і сённяшняе і будучае культуры нашага народа.

Узрушыў мяне асабіста бадай што найстарэйшы ўдзельнік урачыстасцей Кастусь Сідаровіч. Нягледзячы на свой узрост і хваробу, прыехаў ён у Кракаў, узлажыў вянок на магілу і выступіў з прамовай. Сідаровіч быў адзіным, мабыць, удзельнікам, які жыў яшчэ пры жыцці Гаруна, і дзякуючы гэтаму стаўся ён як бы жывым звяном паміж намі і тымі далёкімі часамі, у якіх жыў і дзейнічаў Алесь Гарун.

Помнік Алесю Гаруну ўсім удзельнікам урачыстасці вельмі спадабаўся. Думаю, найважнейшае тое, што збудаваны ён з валуна, які тысячы гадоў праляжаў на беларускай зямлі і, мабыць, далейшую тысячу праляжыць у Кракаве на магіле Гаруна і будзе гаварыць прахожым элементарныя праўды аб вялікім БЕЛАРУСЕ.

Нягледзячы на вельмі ўдалы характар усяго мерапрыемства, вярнуўся я дадому з пэўнай дозай незадаволенасці і горычы. Выклікана гэта было думкай аб тым, што месца праху Гаруна не ў Кракаве, а ў беларускай зямлі. І таму павінны мы думаць аб перанясенні свяшчэннага праху паэта на родную зямлю, мінскую, ці хаця б беластоцкую...

**Алесь Барскі**



**На адкрыцці помніка Алесю Гаруну. Кракаў, 24 верасня 1988 года.** **Фота Міхася Шаховіча**





# РАЗВІТАННЕ З РЭДАКЦЫЯЙ

Неяк усе прывыклі, што людзі у „Ніву“ найчасцей прыходзілі да Міхася Хмялеўскага. Хоць бы быў найбольш заняты, ён заўсёды знайшоў час для чалавека, нават тады, калі бачыў яго ўпершыню. Заўсёды ўмеў знайсці сардэчнае слова на пацяцэнне. Быў заўсёды ўражлівы на людскія крыўды, хутка наладжваў кантакты.

Міхась „хадзіў“ у народ тады, калі сапраўды хадзілася. Тады, на пачатку, не падстаўлялі рэдакцыйных самаходаў для журналістаў. Міхась любіў быць госцем на вёсцы. Ведаў мноства людзей, пра кожнага з іх сходу мог нешта напісаць. Але ўмеў быць і ветлівым, сардэчным гаспадаром і таму людзі ішлі да яго. Усюды яго запрашалі, чакалі яго прыезду.

І вось цяпер надыйшла пара развітацца з „Нівай“ у сувязі з пераходам Міхася Хмялеўскага на пенсію. Прапрацаваў ён у журналістыцы 35 гадоў, з таго ў „Ніве“ амаль 33 гады. Быў адным з пачынальнікаў, стваральнікаў беларускай газеты ў Польшчы.

Заўсёды быў актыўным грамадскім дзеячом. Займаў высокія пасады ў ГП БГКТ. На працягу дзвюх кадэнцый быў яго старшынёю. Непасрэдна займаўся культурна-асветнай дзейнасцю. 28 гадоў кіраваў партыйнай арганізацыяй пры ГП БГКТ і „Ніве“.

Як грамадскі дзеяч і заангажаваны публіцыст, вельмі добра разумеў найбольш пільныя патрэбы часу, быў у сваіх матэрыялах прынцыповым абаронцам прагрэсіўных здзяйсненняў на нашай вёсцы.

Дзяржава высока ацаніла грамадскую і прафесійную працу Міхася Хмялеўскага, узнагародзіўшы яго адной з найвышэйшых дзяржаўных узнагарод — Крыжам Камандорскім Ордэна Адраджэння Польшчы, якім у журналістыцы можа пахваліцца мала хто.

Застаецца нам пажадаць Міхасю Хмялеўскаму, каб ён, перайшоўшы, так сказаць, на лона сям'і, цешыўся надалей сваімі дзецьмі і ўнукамі, але і не забываўся пра нас.

Будзе без цябе, Міхась, пуставата ў рэдакцыі.

**Ада Чачуга**

Фота Яніны Чэрнякевіч



Молада, сучасна, па-беларуску

**ЗНОЎКУ ЗАРНІЦЫ...**

Словы С. Сокалава-Воюша
Музыка А. Камоцкага

Зноўку зарніцы у небе радзімы палаюць,
Прашчураў цені з сівых курганоў паўстаюць.
Я іх рамёны ля ўласных плячэй адчуваю,
Нашыя песні іх мужныя вусны пяюць.

Ты, чарнабрыва, даруй і чакай на ўзлеску,
Дзе крывічанкі чакалі каханых сваіх,
Дзе іх вачамі нас сёння страчаюць пралескі
З расою — слязінкамі іх. (Двойчы).

Кроў на сумётах і гронкі каліны на белі,
Як вышыванкі у нашых хлапцоў і дзяўчат.
Думкі, і душы, і рукі у нас не знямелі.
Ведаем: смерць — гэта нават паўкроку назад.

Хтось паслізнуўся і — тварам у тхлань балаціны.
Вабяць кагосьці чужыя стугі і крыжы.
Толькі упарты шыбуе абранай сцяжынай
І вораг кіпіць на нажы. (Двойчы)

# ДА ПЫТАННЯ: ПЕРАШКАДЖАЕ ЦІ ПАМАГАЕ БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Д-р Мікалай Грыгарук, старшы візітатар Кураторыі асветы і выхавання ў Беластоку, правёў аналіз прадметных алімпіяд у Беластоцкім ваяводстве. З гэтага аналізу вынікае, што, дзякуючы вялікаму, самаахвярнаму ўкладу працы вучняў, настаўнікаў і дырэкцыі, Беларускі ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску паспяхова спаборнічае з ліцэямі Беластока і іншых вялікіх гарадоў.

У 1977-78 навучальным годзе ў прадметных алімпіядах на ўзроўні ваяводства ўдзельнічала 40 вучняў Бельскага беларускага ліцэя, а ў цэнтральных — 3 вучні. У 1978—79 навучальным годзе ў ваяводскіх алімпіядах удзельнічала 43 вучні, а ў цэнтральных — 6. У 1979-80 г. адпаведна 36 — у ваяводскіх і 6 — у цэнтральных. Падобна было і ў наступныя гады. Разам за 1976—1988 гады, гэта значыць за апошнія 12 год, у прадметных алімпіядах, асабліва па ведах аб Польшчы і сучасным свеце, па біялогіі, па рускай, польскай і нямецкай мовах, а таксама ў алімпіядзе юрыдычных ведаў на ваяводскім узроўні ўдзельнічала 435 вучняў, у цэнтральных алімпіядах — 69, а сярод гэтых апошніх 15 вучняў, гэта значыць, 20 працэнтаў, стала лаўрэатамі.

Найбольш лаўрэатаў ваяводскіх алімпіяд падрыхтавалі настаўніцы Таіса Бялецкая (веды аб Польшчы і сучасным свеце), Ніна Суліма (біялогія) і Зінаіда Навіцкая (руская мова); цэнтральных алімпіяд — Ніна Суліма (7 вучняў) і Таіса Бялецкая (5 вучняў).

Моладзь ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча складае толькі 4,4 працэнта агульнай колькасці вучняў сярэдніх школ у нашым ваяводстве, настаўнікі — 4,1 працэнта настаўнікаў сярэдніх школ ваяводства, але колькасць алімпійцаў з гэтага ліцэя складае 25 працэнтаў усіх вучняў, якія дайшлі да ваяводскіх прадметных алімпіяд. Гэта вельмі вялікае дасягненне школы, і перш за ўсё яе вучняў, настаўнікаў і дырэкцыі.

Несумненным дасягненнем школы з'яўляецца і тое, што ўсе вучні апошняга класа здаюць матуральныя экзамены, амаль усе здаюць уступныя экзамены ў вышэйшыя школы і амаль усе паступаюць. Гэта таксама яшчэ адзін доказ таго, што беларуская мова, як некаторыя прабуюць тлумачыць, не толькі не перашкаджае, але і памагае дабівацца добрых вынікаў па іншых прадметах.

**Янка Зенюк**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Ніл Гілевіч

## РОДНАЯ МОВА

*(паводле Р. Босілека)*

**Мова родная мая ты,
Што і дзедавай была!
Мова мамы, мова таты,
Мова нашага сяла!**

**Ты звініш, калі я ўранку
Чую песні за акном,
І журчыш, як баіць байку
Мне бабуля перад сном.**

**Разгарну буквар вясёлы —
Зноў са мной гаворыш ты,
Мілагучная заўсёды,
Як званочак залаты!**

## НАШЫ НАСТАЎНІКІ

**Надзея Сасна** — адна са старэйшых настаўніц школы ў Пашкоўшчыне. Усе свае 34 гады настаўнічання яна прапрацавала ў адной школе. Яна — выпускніца беларускага класа Бельскага педагагічнага ліцэя. Колькі ж вучняў накіравала яна ў жыццё? Колькі маладых людзей памятае яе добрае слова, дадзенае на дарогу выпускніку, як пуцёўку ў вялікі свет?

Дзякуем паважанай настаўніцы за карпатлівую працу з дзецьмі і жадаем ёй добрага здароўя і поспехаў у далейшай працы.



## ДА СВЯТА НАСТАЎНІКАЎ

**На гэтым тыдні ў нашых школах вялікае свята — Дзень Настаўніка. Рыхтуем для сваіх выхаваўцаў цёплыя словы падзякі за сардэчныя адносіны да нас, складаем пажаданні ўсяго найлепшага, уручаем кветкі.**

**У гэты дзень давайце пастараемся як найлепш падрыхтавацца да заняткаў, упрыгожыць класы, усё рабіць так, каб настаўнік адчуваў, што мы не забыліся пра свята, каб настаўнікі былі намі задаволены.**

**Не забудзьцеся наведаць і павіншаваць і вашых былых настаўнікаў, якія, аддаўшы свае сілы школе, цяпер знаходзяцца на пенсіі. Ім будзе прыемна ваша памяць.**

**„Зорка“ віншуе ўсіх настаўнікаў з іх святам і жадае шмат сонечных дзён у іх асабістым жыцці і працы ў школе.**

## З ЖЫЦЦЯ ШКОЛЫ Ў ПАШКОЎШЧЫНЕ

Школа ў Пашкоўшчыне не раз гасціла на старонках „Зоркі“. І ўсё дзякуючы таму, што рэгулярна ўдзельнічае ва ўсіх беларускіх конкурсах для школьнікаў. У мінулым годзе школьны тэатральны калектыў падрыхтаваў на конкурс п'есу „Валовая хатка“ і заняў тады другое месца. У конкурсе беларускай песні для школьнікаў выступіў школьны вакальна-інструментальны калектыў „Зярняткі“ са сваімі салістамі. Вельмі добра выступіў. А лепшыя вучні з гэтай школы заўсёды прымаюць удзел у школьных дэкламатарскіх конкурсах. У гэтым годзе найлепшай была Анэтка Мураўка, займаючы трэцяе месца.

Сёлета навучальны год пачаўся ў школе зноў вельмі цікава.

Беларускую мову ў школе вывучаюць усе дзеці без выключэння. Узнавіў ужо працу школьны беларускі гурток, арганізатарам якога быў дырэктар школы Янка Добаш. Цяпер гурток рыхтуе пастаноўку па зборніку гумарыстычных апавяданняў Міхася Шаховіча „Вада ў рэшаце“. Усё выглядае на тое, што атрымаецца вясёлы спектакль са сцэнкамі з вясковага жыцця.

У мінулыя гады беларускі гурток, разам з вакальна-інструментальным калектывам „Зярняткі“, аб'ехалі з канцэртамі нямала вёсак, блізкіх і нават далёкіх. Тры разы выступілі пры розных нагодах у блізкай Орлі, а таксама выступалі ў Крывяцічах, Крывой, Саках, Сухавольцах, Дабрывадзе, Аўгустове, Грэдалях, Мілейчыцах, Кашалях, Кляшчэлях, і, вядома, шмат разоў у сваёй вёсцы.

На ініцыятыве беларускага гуртка на сустрэчы ў школу часта прыязджаюць слаўныя госці. Пабывалі ў школе амаль усе члены літаратурнага аб'яднання „Белавежа“. У чэрвені на беларускім фэсце ў Пашкоўшчыне пабывалі госці — пісьменнікі з Беларусі Данута Бічэль-Загнетава, Аляксей Карпюк і Юрка Голуб. Тады ж выступалі ў Пашкоўшчыне і беларускія калектывы з Рыбалаў, Дубін, з Орлі, а таксама і пашкоўскія „Зярняткі“.

Ужо ў гэтым навучальным годзе школу ў Пашкоўшчыне наведалі вядомыя паэты з Беларусі Рыгор Барадулін і Сяргей Законнікаў.

Шмат дапамагаюць школе бацькі. Ні адно мерапрыемства не абыходзіцца без дапамогі бацькоўскага камітэта, у якім вельмі аддана працуюць Яўген Сушч з Копак, Янка Ігнацюк з Грэдалёў, Мікалай Куптэль з Пашкоўшчыны і іншыя. Яны першыя памочнікі школы ў кожнай яе патрэбе.

Усе школьныя ўрачыстасці праходзяць тут на беларускай мове. І нічога дзіўнага, тут жа ўсе беларусы! На ўсіх урачыстасцях нязменна выступаюць „Зярняткі“. Як жа ж можна абысціся без песні ці без музыкі! Інструментальная група складаецца з двух настаўнікаў і двух вучняў. На гітарах граюць дырэктар школы Янка Добаш і музычны кіраўнік калектыву Юрка Жменька. З вучняў — Марэк Мураўка грае на перкусіі, а Пецfolя Залеўскі — на арганах. Пеця Залеўскі падмяніў у калектыве свайго старэйшага брата Вяслава. Наогул сям'я Залеўскіх у Пашкоўшчыне славіцца як вельмі музыкальная. Спявае ў калектыве сястра хлопцаў Кася, добра спяваюць і бацькі. Ходзяць чуткі, што ў Пашкоўшчыне з іх удзелам арганізуецца інструментальна-вакальны калектыў дарослых. Напэўна, і аб ім мы яшчэ пачуем.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



**Вучні школы ў Пашкоўшчыне разам са сваімі настаўнікамі на сустрэчы з „Зоркай“.**

Мікола Маляўка

## УСЕ ПЯЦЕРКІ — НАШЫ

**Апошні раз канікулы
Разгушкалі арэлі
І ў небе сінім зніклі —
У вырай адляцелі.**

**Адкрасавала поле,
Астыў пясок на пляжы.
Цяпер у роднай школе
Усе пяцёркі —
Нашы.**

**Будзілі рана горны,
І вёў нас полем, гаем
Наш край лясны, азёрны —
На памяць сцежкі знаем.**

**Ранеты ў росным лісці,
Грыбныя баравіны —
Ад лета засталіся
Блакітныя ўспаміны.**

**А кветкі лугавыя,
Зарніцы і праменні
Пяройдуць, як жывыя,
У нашы сачыненні.**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ




### ПЕСНЯ ПРА ЯКУБА КОЛАСА

Словы А. Ставера

Музыка І. Кузняцова

*Мы чуем бацькоўскі прыветлівы голас,*
*Мы слухаем словы, як мудрасці дар, —*
*То з намі гаворыць любімы наш Колас,*
*Зямлі беларускай народны пясняр.*

*Крылатаю песняй Сымона-музыкі,*
*Народнымі думкамі новай зямлі*
*Стварыць сваё шчасце ён край свой паклікаў,*
*Жыццёваю марай народ акрыліў.*

*Народ беларускі здабыў сабе славу*
*У бітвах вялікіх, у працы сваёй,*
*І Коласа думы зрабіліся явай,*
*І новаю песняй гучаць над зямлёй.*

*Мы чуем бацькоўскі прыветлівы голас,*
*Мы слухаем словы, як мудрасці дар, —*
*То з намі гаворыць любімы наш Колас,*
*Зямлі беларускай народны пясняр.*

## НІЎКА




— Пэўна, наш старшыня пад фанаграму выступае: кожны год адно і тое ж.




Шмат расказаў пра сваю сіпласць.

## У ТУМАНЕ

Васілюк едзе на матацыкле. Ён вартаўнік, наглядае за вадаёмам, дакладней, рыбу ў тым вадаёме вартуе. Вось і спяшаецца туды.

Ноччу прайшоў дождж, і ў нізкіх мясцінах як праехаць. Матацыкл буксуе. Задняе кола зарываецца ў багну. Вартаўнік пакідае матацыкл і ідзе пяшком.

Парушальнікаў, як у кожны выхадны, хапае.

„Каб іх наогул не было, — абыякава думае Васілюк, але тут жа спахопліваецца: — каб не было, навошта тады ахова возера?"

Першым у рыбацкіх ботах з высокімі, ледзь не пад грудзі халяўкамі стаіць Камароўскі. Ён з базы, на возеры ледзь не кожны выхадны.

— На рыбалку да нас, хе-хе? — каб не спудзіць рыбу, паціху гаворыць Васілюк.

Наступны таксама мужчына, таксама з базы, толькі драбнейшы, чым Камароўскі, і з барадой. Чалавек, ведаў Васілюк, патрэбны.

„Чым жа ён патрэбны? — прыпамінаў вартаўнік, паволі брыдучы па беразе. — Здаецца, электроды і карбід дастае. А дзе ён бярэ іх? Не ў магазіне ж..."

Далей, за рэдкім кустоўем, Васілюк згледзеў трактарыста Захара Піліпчыка, ажывіўся, павялічыў крокі. У думках вартаўнік падбіраў ужо балючыя словы, якімі збіраўся бэсціць парушальніка ўстаноўленага праўленнем парадку на возеры, як раптам успомніў: пазаўчора трактарыст прывозіў яму, Васілюку, сена. „Дурань, толькі разагнаўся дарэмна..." — падумаў Васілюк.

— А там хто? — павітаўшыся з механізатарам, спытаўся вартаўнік, прыглядаючыся да барадача, які ледзь віднеўся праз туман.

— Не ведаю. Як я прыехаў, ён ужо вудзіў, — адказаў Піліпчык. Васілюк рашуча накіраваўся да барадатага мужчыны.

— Гэй, барада! Даю 24 секунды на зборы, — сказаў Васілюк рыбаку.

— Мне дазволілі, — глуха прамовіў мужчына.

Роўна праз дваццаць чатыры секунды Васілюк схаваў гадзіннік і, заграбаючы ботамі ваду, пайшоў у атаку. Не вытрымаўшы націску, барадаты адступіў.

Васілюка назаўтра выклікаў старшыня калгаса.

— Шмат парушальнікаў?

— Былі. Паразганяў. Цяпер няма.

— Ну і цудоўна. Трэба з'ездзіць у горад. На Зялёнай, пяць, знойдзеш Георгіеўскага. Папросіш тры скрыні шыферных цвікоў. Кароўнік стаіць без даху.

Праз гадзіну калгасная машына спынілася на Зялёнай. Васілюк адшукаў патрэбныя дзверы, ступіў на парог і замёр ад нечаканасці: за сталом сядзеў мужчына, якога ўчора ён, Васілюк, турнуў з возера.

— Я вас слухаю, — спытала барада.

— Прабачце, я памыліўся, — і вартаўнік прычыніў дзверы.

Іван Пяшко




...Што напісана пяром, таго не высячэш і сякерай — гэтым жыў, на гэта спадзяваўся ананімшчык.

### СЯМЕЙНАЯ РАЗМОВА

— Ты чула, Казлоўскаму лекар прапісаў строгую дыету.

— Ну, цяпер мы можам запрасіць яго ў госці.

### ЭКАНАМІЧНА

— Дзе твой заручальны пярсцёнак?

— На гэтым тыдні яго носіць мая жонка.

### У ЦЫРУЛЬНІ

— Вас пудраваць?

— А гэта ўваходзіць у кошт галення?

— Так.

— Тады, калі ласка, загарніце мне пудру — для жонкі.

